

**1927 г. Вучні Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Францішка Скарыны ў майстэрні Язэпа Драздовіча (у белай кашулі з беларускай народнай вышыўкай). Фота з калекцыі Мар'яна Пецюкевіча (зараз у Аддзеле рукапісаў і рэдкіх кніг Бібліятэкі Акадэміі Навук Беларусі)**

свайму месцу распалажэння Беласток нічым не розніцца ад новаўзбудаваных Баранавіч – ні ракі, ні возера, ні прыгожых узгор'яў ці даліны. Найпрыгажэйшая часць Беластоку – гэта каля гатыцкага касцёлу. Ад т. зв. ратушы да брамы палацу Браніцкіх». Праз два дні Язэп Драздовіч маляваў ужо шыльду на памяшканне Акружной управы Таварыства беларускай школы ў Беластоку. Да 14 сакавіка рабіў вітражныя шыльды кааператыва выдавецка-асветніцкага таварыства «Сяўба». Запісаў гэты факт у дзённіку: «У левым акне па-польску, у правым – па-беларуску, а пасярод, у дзвярах, намаляваў сяўца сівабародага ў белай вопратцы». Дзе пасяліўся Яўэп Драздовіч – не ўспамінае. Але там «на даму, на кватэры, дзе таксама не без холаду – як хукнеш у паветра – пара відацца». Сакавік халодны яшчэ месяц, да таго ў Язэпа Драздовіча пратаптаныя, дзіравыя боты, якія працякалі. 16 сакавіка ў памяшканні клуба ТБШ (на вуліцы Купецкай 44-в) распачаў дэкарацыю (не заслоны!) «Беларуская вёска з вуліцай» у перспектыве. Закончыў яе 18 сакавіка – да пачатку спэктаклю «Суд» паводле Уладыслава Галубка. 20 сакавіка распачаў маляваць наступную дэкарацыю – ландшафт. Умовы былі вельмі скромныя. Пісаў таго дня: «Ды кепска працаваць. Прымаразкі. Памяшканне не атапляецца. Холад». 22 сакавіка закончыў дэкарацыю-краявід «марэнна-лясістага характару (на воддалі лес, узгор'е, рэчка, узгоркі, а на узгорках бярозавыя гайкі. Наўбліжжу ўзмёт з альшынкамі і дубам». На працягу першых двух тыдняў пабыўкі ў Беластоку Язэп Драздовіч пабыў на спектаклі «Суд» і на сходзе сяброў Таварыства кааператыўнай выдавецка-асветніцкай суполкі «Сяўба» (21 сакавіка), на якім студэнт Орса з Навагрдчыны чытаў лекцыю пра развіццё беларускай літаратуры. У скупых дзённікавых запісах не передаецца атмасфера гэтых мерапрыемстваў.

Язэп Драздовіч на працягу месяца рабіў і наступныя дэкарацыі-тыльнікі для аматарскага беларускага тэатра – 5 красавіка закончыў «Пушчу», «незважаючы на недахоп фарб». У міжчасе займаўся таксама дэкарацыямі на паперы для аматарскай фатаграфічнай майстроўні Б-віча. На адной былі піраміды, сфінксы і сонца, на другой вугалём: «знізу куля Зямлі і цёмнага Месяца або іншых планет... Зверху ваўністае воблачча, а з па-за воблачча

з розных пунктаў зверху ўніз, крыжуючы адзін аднаго – косы таямнічых лучоў». На іншай алейнай дэкарацыі: «лёгкахмарнае неба, куртына, парк, стаў, дарога, дрэвы – тапаляватая алея». Апісала іх выгляд, бо магчыма ў каго небудзь з беластачан захаваліся як фон на здымках. Аўтар падсумаваў іх як «беспадзячная праца».

6 красавіка Язэп Драздовіч дапамагаў гаспадару кватэры на вуліцы Васількоўскай 61 – Ваську Л. у гароднітцве. Васька Л. гэта Васіль Лукашык (1905-1975), быўшы вучань Віленскай беларускай гімназіі і студэнт Віленскага ўнівэрсытэта. У Вільні жыў разам з Язэпам Драздовічам, таму магчыма мастак, будучы ў Беластоку, жыў у яго. Магчыма, гэта Васіль Лукашык запрасіў яго на працу ў Беласток. «Васька адзінок – брата Андрушу забралі ў войска, а матка выехала да братоў пад Варшаву, сястра (Таня – Л. Г.) ж яшчэ вучыцца як матурыстка ў Навагродскай гімназіі» – запісаў Язэп Драздовіч. Васіль Лукашык за саветамі стане настаўнікам у беларускай школе ў Крынках, а за немцамі будзе бургамістрам Беластока. Трапіць у Асьвенцім (Аўшвіц), адкуль уцячэ. Пасьля вайны апынецца ў Швэцыі. Андруша будзе жыць пасьля вайны па вуліцы Васількоўскай 61, разам з сям'ёй і маці. Таня выйдзе замуж за Аркадзя Лашэвіча.

А тады ў 1933 г. Васіль Лукашык з Язэпам Драздовічам садзілі рабінкі пры Васількоўскай 61. А ці засталіся яны дасюль? Прафэсар Віктар Лашэвіч, сын Тані і Аркадзя, не прыпамінае, каб яны зараз там расьлі.

7 красавіка 1933 г. (у суботу) у Супрасьлі пры дэкарацыях мастака ставілі камэдыю «Пашыліся ў дурні» Крапіўніцкага. І тут запісана рэфлексія Язэпа Драздовіча пра спектакль: «Сыгралі досыць удала. Публікі было шмат. А галоўнае – зацікаўленасць. Супрасляне аказаліся нашмат тэатральнейшымі за беластачан, якія ідуць на спектаклі толькі дзеля танцаў...» Падчас пабыўкі ў Супрасьлі мастак меў прыемнасць аглядаць «старадаўнейшы памятнік нашай краёвай беларускай архітактуры» – абарончую царкву.

Праз тыдзень Язэп Драздовіч закончыў працу над дэкарацыяй сцэны ТБШ і дапамог устанавіць яе на сцэне ў заарандаванай зале на вуліцы Ружанскай. Там 16 красавіка адбыўся спэктакль-вечарына. Прадстаўлялася п'еса «Пашыліся ў дурні». Уражаньні запісаў Язэп Драздовіч у дзёньніку: «Сайгралі як найлепей. Сама сцэна з маімі дэкарацыямі мела выгляд надта прыстойны, ды на вялікі жаль цаніцеляў на ўсё гэта не хапала. Публікі было шмат. Моладзь уборная, франтаватая, але эстэтычна слаба развітая. Танцы...»

22 красавіка Язэп Драздовіч пачаў «яшчэ адно велічэзнае пано-тыльнік «Пушча» на казэінавым грунце... Аж цэлае кілё свежага харошага сыру тварожнага пусціў на разбараксаваны клей – аж шкода – чаму б мне самому яго не з'есці – замест бы на палотны ды на абрус, у талеркі...» Дзень пазьней запісаў сваё галоднае ды халоднае становішча: «Прастуда і недаедкі... Халоднае і да крайнасці сырое (з мокрымі сутарэннымі мураванымі сценамі) памяшканне, а побач з гэтым посніца і недаедкі зусім падарвалі мне маё здароўе... Ой, хоць бы хутчэй цяпло ды зароблены грошы на дарогу, каб выехаць адгэтуль...»

Праз пяць дзён мастак зайшоў на вуліцу Купецкую 44 у ТБШ, каб закончыць абраз-дэкарацыю «Пушча», але «на вялікі жаль прыходзіцца сядзець і нічога не рабіць – пакосту, клею і некаторых фарб не хапіла, а ў Т-ва, аказалася, няма грошай на дакупку». 4 мая запісаў: «Работа па маляванню дэкарацыі «Пушча» паволі кратаецца наперад, сягодня распачаў накід пакост фарбай левага боку – узвал і паросшае хвойнікам узбярэжжа пушчы».

Май Язэп Драздовіч правёў на вуліцы Васількоўкай 61 у Васіля Лукашыка, дзе капаў, а пасьля садзіў агарод. 13 запісаў у дзёньніку: «А аб запрацаваным на дэкарацыях ад Т. Б. Ш. – ганарары – ні слуху, ні духу. Марная надзея. Хоць ты кінь, рынь, ды сабраўшы свае паношаныя праз доўгі час трохгоднага безрабоцця – лахі пад пахі, ды пехатой з паваротам на Вільню пусціся». Быўшы ў такой сытуацыі майскай парой пісаў: «а мне нуда-нудзішча, няма куды пайсці, няма куды дзявацца. Узноў адзін з нудой, бядой ды тугой». Адзінай радасьцю была праца ў агародзе: «Няма нічога прыемнейшага, як даваць жыццё раслінам – пахаць ды сеяць». Язэп Драздовіч згадваў дзьве сымпатычныя суседкі-сёстры: Рэгіну і Ванду, якія заходзілі да Васіля Лукашыка пазычаць кнігі. 19 мая вярнулася ў Беласток маці Васіля Лукашыка, якая па характары не адпавядала мастаку. «Хутчэй бы адгэтуль... – пісаў 19 мая – Атрымаць свой доўг за працу ад Т. Б. Ш. ды ў Вільню». У размове з сябрамі з Галоўнай управы ТБШ 28 мая выяснілася, што ганарар заплацяць яму толькі першага чэрвеня. Яны замовілі яшчэ адну дэкарацыю «Замчышча» – за 25 злотых. Язэп Драздовіч пачаў яго маляваць наступнага дня на адвароце «Пушчы». 30 мая занатаваў у дзёньніку: «Дарысаваў і падмаляваў замкавыя вежы з брамы, з такім рахункам, каб глядзельнік адчуваў сябе на дзядзінцу, унутры замчышча... На жаль фарбы вышлі – далей няма чым рабіць». 1 чэрвеня закончыў дэкарацыю: «Хай упрыгажаюцца на добрае здароў'е». Аднак заплаты не атрымаў. 4 чэрвеня пісаў: «Учора запрапанаваў адначаму з сяброў Акружной управы Т. Б. Ш. у Беластоку пастарацца на сягодня для мяне сваёю інстытуцыяй хоць бы толькі грашэй, каб я мог купіць сабе білет на праезд з Беластоку да Вільні – аўтобусам. Але на вялікі жаль, як даведаўся сягодня ад сакратара Ляшчынскага, і на гэткую суму ніяк не могуць здабыцца...».

6 чэрвеня, чакаючы ганарару, Язэп Драздовіч перабраўся на новую кватэру – у ТБШ на вуліцу Купецкую 44-в. Там не было лепш: «Голад... Сяджу без грошай і без хлеба. Хутчэй бы ў Вільню ды адтуль на сваю радзі-

*(Працяг на стар. 31)*

# Максім Багдановіч на паштоўках

**Першыя паштоўкі ў гонар беларускіх літаратараў з'явіліся ў 1906 годзе. Іх выпусціла беларуская выдавецкая суполка ў Санкт-Пецярбургу „Загляне сонца і ў наша ваконца". На паштоўках былі партрэты Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча і Янкі Лучыны.**

Класік беларускай літаратуры, пясняр Чыстае Красы Максім Багдановіч (1891-1917) на паштоўках з'явіўся пасля Другой сусветнай вайны. У 1958, 1963 і ў 1973 гадах у беларускіх дзяржаўных выдавецтвах выдаваліся падборкі паштовак з партрэтамі многіх беларускіх пісьменнікаў. Сярод іх быў і партрэт Максіма Багдановіча. А ў 1978 годзе маскоўскае выдавецтва „Советский художник" партрэт Максіма Багдановіча беларускага мастака Монаса Манансзона (1917-1980) рэпрадуцыравала на паштоўцы.

Арыгінальная паштоўка, прысвечаная Максіму Багдановічу з'явілася накладам 10000 асобнікаў у 1981 годзе ў мінскім выдавецтве „Беларусь". Над паштоўкай працавалі вядомыя майстры – графік Пятро Драчоў (1937-2005) і фатограф Валянцін Ждановіч (1937-1992), якія па архіўных матэрыялах даследчыцы творчасці Максіма Багдановіча Ніны Ватацы (1908-1997) аднавілі партрэт паэта і перанеслі яго на паштоўку. Дарэчы, Ніна Барысаўна Ватацы ўсё жыццё займалася Багдановічазнаўствам. Яна адшукала і апублікавала невядомыя тэксты, аўтографы і фотаздымкі Максіма Багдановіча, склала літаратурны альбом пра яго жыццё і творчасць (сумесна з Алегам Лойкам, 1968) і зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў «Шлях паэта» (1975),




бібліяграфічны паказальнік твораў, аўтографаў і крытычнай літаратуры «Максім Багдановіч» (1977). Ніна Ватацы адсачыла гісторыю партрэта Максіма Багдановіча. На паштоўцы той партрэт, які ўпершыню з'явіўся ў другім выданні зборніка „Вянок" (Вільня, 1927), уяўляе сабой фрагмент з групавога здымка супрацоўнікаў яраслаўскай газеты „Голос", дзе працаваў паэт, зроблены ў 1915 годзе.

Некалькі паштовак з выявамі класіка беларускай літаратуры пабачылі свет да 100-годдзя Максіма Багдановіча. Былое Міністэрства сувязі СССР у 1991 годзе ў Маскве выпусціла 100-тысячным накладам паштоўку на якой адлюстраваны партрэт Максіма Багдановіча, чарніліца з пяром, кнігі ў левым куточку паштоўкі і тэкст зверху: „100 гадоў з дня нараджэння", а ўнізе пад партрэтам напісана: „Беларускі паэт Максім Багдановіч 1891-1917". Аўтарам паштоўкі з'яўляецца мастачка Яўгенія Галубятнікава.

Арыгінальная паштоўка да 100-годдзя Максіма Багдановіча выйшла з друку ў Нью-Ёрку. Паштоўку выпусціў Беларускі Інстытут навукі і мастацтва, аўтарам яе з'яўляецца мастачка Ірэна Рагалевіч-Дудко. Паштоўка выйшла на беларускай і англійскай мове. Вершаваня радкі з беларускай мовы на англійскую пераклала вядомая англійская перакладчыца, журналістка і гісторык Вера Рыч (1936-2009). На паштоўцы намаляваны партрэт Максіма Багдановіча, Пагоня і напісаны радкі з верша "Пагоня" паэта на беларускай і англійскай мовах : „Біце ў сэрцы іх – біце мячамі! Не давайце чужынцамі быць!" (Strike them, strike to the heart with swords brandished, Let them not into foreigners turn!).

Адзначыла 100-годдзе класіка і мінскае выдавецтва „Беларусь". Яно ў 1991 годзе таксама выпусціла паштоўку, прысвечаную Максіму Багдановічу ў афармленні Міхала Баразны. На адным баку паштоўкі – малады і прыгожы Максім, а на адваротным баку надрукаваны яго верш „Пагоня".

Шмат зрабіла для ўшанавання памяці Максіма Багдановіча гарадзенская паэтка і публіцыстка Данута Бічэль. Дзякуючы яе руплівасці ў 1986 годзе ў Гародні быў адкрыты музей паэта, дзе спадарыня Данута да 1998 года яго ўзначальвала. Гэта дзякуючы Дануце Бічэль у гарадзенскім музеі Максіма Багдановіча адбываліся шматлікія вечары, сустрэчы, прэзентацыі. Музей выдаваў буклеты, кнігі, запрашэнні і, вядома ж, паштоўкі. У 1996 годзе у Гарадзенскай друкарні накладам 500 асобнікаў была выпушчана паштоўка, прысвечаная маці Максіма Багдановіча Марыі Багдановіч (1869-1896). На адным баку паштоўкі змешчаны партрэт маладой і прыгожай Марыі Багда-




*Паштоўка, якую да 100-годдзя Максіма Багдановіча ў 1991 годзе ў Маскве выпусціла былое Міністэрства сувязі СССР*

новіч і радкі з верша Максіма: „І ціха думаў я: быць можа, любоў, палёгшы у трунах, перамагла і смерці жах!”. А на адваротным баку паштоўкі надрукаваны верш паэта „Раманс”:

*Не знайсці мне спакою*
*Ні цёмнай ночай, ні днём,*
*Бо любоў мяне мучыць і паліць*
*Пякельным агнём.*
*Але ведама: каб апаліўшыся,*
*Боль заглушыць, –*
*Трэба толькі да раны*
*Халоднай зямлі прылажыць.*
*Пэўна прыйдзецца мне*
*Пахавацца ў сырую зямлю,*
*Каб суцішыць мучэнні*
*І тую забыць, што люблю.*

У 1997 годзе гарадзенскі музей Максіма Багдановіча выдае яшчэ адну паштоўку, на гэты раз з партрэтам Максіма Багдановіча. Наклад паштоўкі быў 400 асобнікаў.

Грамадска-культурны дзеяч, навуковец, калекцыянер Анатоль Белы (1939-2011) заснаваў ў 1990 годзе і адкрыў у 1999 годзе на ўласнай сядзібе ў горадзе Старыя Дарогі прыватны мастацкі музей. У музеі да сённяшніх дзён экспануецца каля 1700 твораў жывапісу, графікі, скульптуры, медальернага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі. У экспазіцыі прадстаўлены партрэты князёў, палкаводцаў, культурна-асветніцкіх дзеячаў Беларусі, батальныя карціны, краявіды, помнікі дойлідства, гарады і замкі Беларусі, бюсты і медалі, зробленыя ў гонар знакамітых дзеячаў Бацькаўшчыны. Ёсць там і бюсты Максіма Багдановіча і яго бацькі Адама Багдановіча. Анатоль Белы пры жыцці выдаў серыю паштовак на якіх адлюстраваны вялікія беларусы ХХ стагоддзя. Адна з паштовак, прысвечана Адаму і Максіму Багдановічам: на адным баку – бюсты Максіма і Адама Багдановічаў, на адваротным – верш Яўгена Гучка „Парыж – Старыя Дарогі” з радкамі: „Адам і Максім Багдановічы паўсталі таксама ў метале надоечы…”.

Маладзечанская цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча да яго 115-годдзя выпусціла каляровую паштоўку, прысвечаную паэту і Ракуцёўшчыне. Летам на ўскраіне Ракуцёўшчыне ў 1911 годзе гасцяваў Максім. „Страніца лепшая ў штодзённіку жыцця!” – так назваў паэт гэты час. Там ён напісаў два цыклы вершаў: «Старая Беларусь» і «Места» (усяго 17 вершаў) і дзве паэмы «У вёсцы» і «Вераніка».

Музеіфікацыя ракуцёўшчынскіх месцаў пачалася ў 1970-х гадах. А ў 1977 годзе ў вёсцы Ракуцёўшчына на ўспамін аб знаходжанні там паэта пастаўлены два помнікі-валуны: адзін як вечная свечка памяці, на другім — выбіты радкі з „Санета” Максіма Багдановіча. У 1981 годзе ў вёсцы каля помніка беларускімі літаратарамі пасаджаны мемарыяльны „Максімаў сад”.

У 1994 годзе там быў створаны філіял музея Максіма Багдановіча „Фальварак Ракуцёўшчына”, які ўключае сядзібу Лычкоўскіх (домік арандатара, фальварковая хата, гаспадарчыя пабудовы), тэрыторыю вакол сядзібы, Максімаву крыніцу. Штогод тут адбываецца свята паэзіі і песні „Ракуцёўскае лета”, прысвечанае памяці Максіма Багдановіча.

Маладзечанскія краязнаўцы Міхась Казлоўскі і Барыс Брацук да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча ў Маладзечне выпусцілі сваю чорна-белую паштоўку з партрэтам Максіма Багдановіча.

**Сяргей Чыгрын**













*Паштоўка выдадзена навукоўцам і калекцыянерам Анатолем Белым ў рамках серыі паштовак, на якіх адлюстраваны вялікія беларусы XX стагоддзя*





*Паштоўка выдадзена ў 1997 годзе гарадзенскім музеем Максіма Багдановіча*





*Паштоўка да 100-годдзя Максіма Багдановіча, якая выйшла з друку ў Нью-Ёрку*




*Такой паштоўкай адзначыла 100-годдзе класіка мінскае выдавецтва „Беларусь”*




*Паштоўка выдадзена ў 1981 годзе ў мінскім выдавецтве „Беларусь”*






115 год з дня нараджэння М.Багдановіча







*Паштоўка, прысвечана паэту і Ракуцёўшчыне (летам на ўскраіне Ракуцёўшчыне ў 1911 годзе гасцяваў Максім). Выпусціла яе маладзечанская цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча*



# Календарыюм

## Красавік – гадоў таму

**915** – 14.04.1101 г. памёр князь полацкі Усяслаў Чарадзей, выдатны беларускі палітык, военачальнік.
**720** – у 1296 г., узімку ды вясною, крыжакі на чале з магістрам Райбэргам (загінуў потым у бітве зь беларускімі воямі) і Зуцвэртам напалі на Гарадзенскае Княства. Асабліва цяжкія страты панесьлі жыхары цяперашняй Аўгустоўшчыны, Дуброўшчыны ды Сакольшчыны.
**685** – у 1331 г. войскі старабеларускай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага разграмілі крыжакоў на рацэ Акмені.
**385** – у 1631 г. у Куцеінскай манастырскай друкарні быў выдадзены „Буквар” падрыхтаваны С. Собалевым.
**380** – выданьне ў 1646 г. „Дыярыуша” Афанасія Філіповіча. У „Дыярыушы” быў зьмешчаны адзін з найбольш раньніх нотных запісаў беларускай музыкі.
**365** – каля 1651 году нарадзіўся І.Ф. Капіевіч, беларускі асьветнік і кнігавыдавец. Аўтар каля 20 падручнікаў, слоўнікаў, навучальных дапаможнікаў. Памёр у 1714 годзе.
**355** – пачатак у красавіку 1661 антырасійскага паўстаньня ў Дзісьне, Себежы, Гомелі ды іншых беларускіх гарадах.
**170** – 4.04.1846 г. памёр Лявон Бароўскі (нар. 27.06.1784 г. на Піншчыне), літаратуразнавец, пэдагог і публіцыст. У1807-1811 гг. выкладаў рыторыку і паэтыку ў Сьвіслацкай гімназіі, з 1814 г. выкладаў літаратуразнаўства і красамоўства ў Віленскім унівэрсытэце, а ў 1831-1842 гг. – у Віленскай духоўнай акадэміі. Супрацоўнічаў з час. „Dziennik Wileński” (1815-1826). Яго вучнямі былі між іншым Адам Міцкевіч і Юльюш Славацкі.
**135** – 19.04.1881 г. у в. Такары на Беласточчыне (сучасным памежжы з Рэспублікай Беларусь) нар. Усевалад Ігнатоўскі – выдатны беларускі гісторык, грамадзкі дзеяч. Скончыў у 1911 г. Юр’еўскі Унівэрсытэт у Тарту. У 1912-1914 гг. быў выкладчыкам у Віленскай жаночай гімназіі М. Вінаградавай, у 1914-1919 гг. – Менскага Настаўніцкага Інстытуту. У час вайны ўключыўся ў нацыянальную ды палітычную дзейнасьць, быў між іншым членам Цэнтральнага Камітэту Беларускай Партыі Сацыялістаў Рэвалюцыянераў. У 20-ыя гады займаў шэраг дзяржаўных пасадаў у БССР. Меў вялікі ўплыў на праведзеньне працэсу беларусізацыі. З 1926 г. быў старшынёй Інстытуту Беларускай Культуры, а з 1928 г. прэзідэнтам Беларускай Акадэміі Навук. Напісаў больш за 30 навуковых прац, адна з найбольш вядомых гэта „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі”. З 1930 г. прасьледаваны савецкімі ворганамі бясьпекі. Пасьля аднаго з допытаў, 4.02.1931 г. паконччыў жыцьцё самагубствам. У 1937 г. жонка была асуджана на 8 гадоў лагераў, а двух сыноў расстраляных.
**130** – 23.04.1886 г. у мястэчку Пасадзец Вілейскага павету нар. Зьмітрок Бядуля (сапр. прозьвішча Самуіл Плаўнік, пам. 3.11.1941 г.), пісьменьнік. Друкаваўся з 1910 г., пачаткова ў „Нашай Ніве”.
**125** – 4(16).04.1891 г. на Сакольшчыне нар. Язэп Варонка, старшыня і міністр замежных спраў Народнага Сакратарыята Беларускай Народнай Рэспублікі (21.02. – 23.07.1918 г.), удзельнічаў у падрыхтоўцы і правядзеньні Першага Усебеларускага Зьезду ў Менску ў сьнежні 1917 г., быў старшынёй Выканаўчага Камітэту Зьезду, быў адным з ініцыятараў абвяшчэньня БНР. Рэдагаваў беларускія газэты ў Менску: „Варта”, „Белорусская земля”. З 23 ліпеня 1918 г. быў прызначаны надзвычайным паслом БНР у Літву, Украіну, Малдову, Грузію. Удзельнічаў са стараны БНР у перамовах з украінскім урадам і з Ю. Пілсудскім. 7 сьнежня 1918 г. заявіў аб выхадзе з урада БНР Антона Луцкевіча і стаў міністрам беларускіх спраў ва ўрадзе Літоўскай Рэспублікі (спярша ў Гродне, а пасьля ў Коўне (сакавік 1919 г. – красавік 1920 г.). Выдаў „Часопісь” (верасень 1919 – люты 1920), брашуры „Беларуская Справа да Міравой Нарады у Вэрсалі. Гістарычна-палітычны нарыс” (Коўна 1919), „Заходняя Беларусь” (Коўна

1919), „Беларускі рух ад 1917 да 1920 году. Кароткі агляд” (Коўна 1920). З вясны 1921 г. старшыня беларускага Чырвонага Крыжа, з лістапада 1922 г. – старшыня таварыства „Беларуская Грамада” ў Коўне. Выдаваў там рускамоўную газэту „Вольная Литва” (1921-1922), публікаваў вершы пад псэўданімам „Юрий Вегов”. У 1923 г. зьехаў у ЗША, жыў у Чыкага. Узначальваў Беларуска-Амэрыканскую Нацыянальную Асацыяцыю, быў у кіраўніцтве Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады. Выдаваў там м. інш. газэту „Белорусская трибуна”, вёў беларускія і рускія праграмы ў радыё. Памёр 4 ліпеня 1952 г. у Чыкага.

**95** – 18.04.1921 г. афіцыйнае адкрыцьцё ў Менску Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

**85** – 29.04.1931 г. у Ленінградзе памёр Яўхім Карскі (нар. 20.12.1860 г. у в. Лаша на Гарадзеншчыне), беларускі вучоны – мовазнавец, фальклярыст, літаратуразнавец. Удзельнік беларускага нацыянальнага руху.

**70 –** 1.04.1946 г. у Ватэнштаце (Нямеччына) выйшаў першы нумар часопіса „Шляхам жыцьця”, рэдагаваны Хведарам Ільляшэвічам.

**70** – 9.04.1946 г. заснаваньне ў Міхэльсдорфе (Нямеччына) Беларускага Літаратурнага Згуртаваньня „Шыпшына”.

**65** – 7.04.1951 г. заснаваньне ў Лёндане Каардынацыйнага Камітэту Беларускіх Арганізацыяў у Вялікабрытаніі.

**50** – 18.04.1966 г. памёр у Кліўлендзе (ЗША) беларускі нацыянальны дзеяч Станіслаў Грынкевіч (народжаны ў 1912 г. у Новым Двары на Дуброўшчыне).

**30** – 26.04.1986 г. катастрофа на Чарнобыльскай Атамнай Электрастанцыі. Большасьць радыяцыі апала на тэрыторыі Беларусі – дзякуючы загаду савецкіх уладаў, самалёты савецкай арміі асадзілі хмары з атамным праменяваньнем над беларускімі землямі.

**20** – 26.04.1996 г. у Менску адбылася масавая акцыя „Чарнобыльскі Шлях”, брутальна разагнаная АМОНам.

*Апрацавалі* **Лена Глагоўская** і **Вячаслаў Харужы** ■

# *Konstanty Kalinowski (Kastuś Kalinoŭski) w świadomości Białorusinów w Polsce*

***5.*** Pod koniec 1964 r. na łamach „Nivy” ogłoszono akcję zbierania książek dla biblioteki Domu Kultury w Gródku, która trwała przez cały rok. W tygodniku publikowano nazwiska darczyńców oraz tytuły podarowanych książek. Wśród darczyńców znaleźli się: Biblioteka Powiatowa i Miejska z Bielska Podlaskiego, która podarowała dzieła W. Lenina oraz polską literaturę piękną, Łarysa i Jan Hieniuszowie z Zelwy (podarowali m.in.: „Туристские маршруты па Белоруссии”, „Наша родная мова” A. Krywickiego, „Нагбом” R. Baradulina, „Віленскія камунары” M. Hareckiego, „Мой родны кут” J. Bryla, „Новая зямля” i „Сымон Музыка” J. Kołasa, „Кастусь Каліноўскі ў паўстанні 1863 года” F. Smirnowa), Muzeum Literackie J. Kupały z Mińska – „Ой, рана на Івана” Z. Bandarynaj, Akademia Nauk BSRR – „Янка Купала ў беларускім мастацтве”, „Кацярына” T. Szewczenki, „Янка Купала” I. Szarachauskiego, „Паэмы, драматычныя творы”, „Вершы і паэмы” J. Kupały. Zbiorek swych wierszy z dedykacją podarował też Michaś Maszara z Mińska, Stefan Zieniuk z Białegostoku – „Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя” S. Majchrowicza i „Гісторыя БССР” w dwóch tomach.

12 czerwca 1966 r. Domu Kultury w Gródku uroczyście nadano imię Kontantego Kalinowskiego, odsłaniając przy okazji tablicę z imieniem K. Kalinowskiego. Uroczystość połączono z 21. rocznicą utworzenia białostockiego Oddziału Wojsk Ochrony Pogranicza: „Найперш жыхары Гарадка сабраліся ў кіно дома культуры. Урачыстае пасяджэнне адкрыў сакратар прапаганды Павятовага камітэта ПАРП у Беластоку, тав. Аляксандр Давідзюк. Выступіў таксама афіцэр Польскага войска. Затым гарцэры гарадоцкай школы прывіталі гасцей. І тады наступіў найбольш урачысты момант: намеснік старшыні прэзідыум ПРН у Беластоку, тав. Тадэуш Вонсэк зняў заслону з таблiцы з імем Кастуся Каліноўскага” (В. Рудчык, Дом культуры імя К. Каліноўскага ў Гарадку, „Ніва”, nr 27, z dn. 3.07.1966 r., s. 4). Wiktor Rudczyk w sprawozdaniu z uroczystości na łamach „Nivy” przedstawił zasadność nadania takiego imienia Domowi Kultury w Gródku: „Кастусь Каліноўскі нарадзіўся ў вёсцы Мастаўляны, адкуль у Гарадок амаль рукой падаць – усяго 15 кіламетраў. Значыць правадыр паўстання з 1863 года ў Беларусі і на Літве з'яўляецца для жыхараў Гарадка проста земляком. Ёсць тады чым ганарыцца, і нездарма папрасілі яны Міністэрства культуры і мастацтва, каб менавіта гэтае імя прысвоіць свайму дому культуры”.

Jak wskazano powyżej popularyzacja postaci Konstantego Kalinowskiego na przełomie lat 50. i 60. XX w. wśród Białorusinów na Białostocczyźnie, przyniosła wymierne efekty: nadano jego imię Szkole Podstawowej w Mostowlanach, Domowi Kultury w Gródku, nazwano jego imieniem ulicę w Białymstoku. Ukazały się liczne artykuły o nim w białoruskiej „Nivie” i w kalendarzach białoruskich. W Nivie publikowano też fragmenty przedwojennych poematów o K. Kalinowskim Michasia Maszary i Maksima Tanka:

„Трэба заклік да раніцы кончыць, –
Ты па сёлах яго разнясеш.
Апранешся у торбы, лахмоцце,
Можа, возьмеш цымбалы і кій.
Хутка золак заззяе на плоце,
Хутка...
Трэба пісаць...
„Дзяцюкі”.

Opublikowano też fragmenty sztuki „Kastuś Kalinouski” Jeuścihnieja Mirowicza, granej w Mińsku w okresie międzywojennym (Е. Міровіч, *Апошнія гадзіны* (урывак з п'есы „Кастусь Каліноўскі”), „Ніва”, nr 12, z dn. 22.03.1963 r., s. 3-4). Przy okazji artykułów publikowano też reprodukcje portretu K. Kalinowskiego oraz obrazów Piotra Sierhijewicza „K. Kalinowski wśród powstańców” i K. Kalinowski i W. Wróblewski na przeglądzie oddziałów powstańczych”.

Ważny był też wymiar edukacyjny – postać K. Kalinowskiego znalazła się w programach nauczania języka białoruskiego na Białostocczyźnie i pojawiała się w stopniowo wydawanych – poczynając od drugiej połowy lat 60. podręcznikach do nauki języka białoruskiego. W lekcjach publikowanych wcześniej w „Nivie” dla klasy VIII znalazł się materiał „Мужыцкая праўда”, a pod nim 8 pytań do tekstu: „1. Што ведаеш аб студзеньскім паўстанні і ўдзеле ў ім Кастуся Каліноўскага?, 2. Прачытай з кнігі „Мой родны кут” Абразкі з жыцця Кастуся Каліноўскага, 3. Што гаворыць аўтар аб сялянскім жыцці ў часы паншчыны?, 4. Як адносіцца Каліноўскі да цара, чыноўнікаў і памешчыкаў?, 5. Да чаго заклікае аўтар беларускіх сялян?, 6. Чаму Каліноўскі падпісваўся псеўданімам „Яська гаспадар”?, 7. Складзі малы слоўнік выразаў, якія зачэрпнуты аўтарам з народнай мовы і якіх няма ў мове літаратурнай, 8. Якія польскія пісьменнікі пісалі творы аб студзеньскім паўстанні?” (*Дружба і праца, Хрэстаматыя для VIII класа*, „Ніва”, nr 32, z dn. 7.08.1966 r., s. 5)

W 1968 r. z okazji 130. rocznicy urodzin K. Kalinowskiego w „Nivie” Mikołaj Hajduk w cyklu „Hutarki pa rodnaj historii” przedstawił w dwóch odcinkach Konstantego Kalinowskiego i „Mużycką Praudę”. Pisał o nim: „Вялікім барацьбітом за вызваленне беларускага народа з-пад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту быў Кастусь Каліноўскі”. Podkreślał także, że urodził się on w rodzinie drobnego białoruskiego szlachcica w folwarku Mostowlany na Białostocczyźnie. O „Mużyckiej Praudzie” pisał, że była to pierwsza białoruska gazeta. Cały cykl był przystosowany do nauczania historii Białorusi w szkole. Do każdej części były pytania. Cały cykl został opublikowany w kalendarzu białoruskim na 1969 r.

130. rocznica urodzin K. Kalinowskiego była szczególnie świętowana w 1968 r. 10 lutego z tej okazji w siedzibie BTSK w Białymstoku odbyła się uroczysta akademia, na której referat o „rewolucyjnej działalności” K. Kalinowskiego na Białostocczyźnie wygłosił redaktor naczelny „Nivy” Jerzy Wołkowycki. W części artystycznej wystąpiła Wiera Lewczuk z montażem poetyckim „Кастусь Каліноўскі ў літаратуры”. W „Nivie” z tej okazji zamieszczono reportaż Aleksieja Karpiuka z Mostowlan oraz fragment powieści Sokrata Janowicza „Srebrny jeździec”. A. Karpiuk cytując K. Kalinowskiego („Так сейце ж, дзецюкі, як прыдзе пара, поўнаю рукою, не шкадуйце працы, каб і мужык быў чалавекам вольным, як е на цалюткім свеце!” – „Мужыцкая праўда” nr 2), pisał: „Шмат чаго напісана аб Кастусю Каліноўскім, рэвалюцыянеру, змагару за мужыцкую праўду, за Беларусь. І за кожным разам, калі вяртаешся да літаратуры аб Каліноўскім, магутнейшым стаецца яго веліч, як чалавека, беларуса, інтэрнацыянала. Усё больш хацелася б аб ім ведаць, пазнаць гэтага своеасаблівага чалавека. Думкі тым больш азартныя, што радзіма „Яські гаспадара з-пад Вільні” знаходзіцца ў Мастаўлянах на Беласточчыне ля самой граніцы Польшчы і БССР. Іменна ў гэтай вёсцы 2 лютага 1838 года ў сям'і беззямельнага шляхціца Сымона Каліноўскага нарадзіўся сын Канстанцін. Знамянальная гадавіна нараджэння аднаго з найвялікшых сыноў беларускага народа завяла мяне, у адзін студзеньскі марозны дзень, на радзіму Каліноўскага. Гэта мой першы візіт у Мастаўлянах, і можа таму мне больш чым іншым, удалося адчуць моўную атмасферу „Мужыцкай праўды”, рэдактарам якой быў Каліноўскі. Нават мастаўлянскія школьнікі часта ўжываюць слоў, пры дапамозе якіх Каліноўскі заклікаў мужыкоў, каб былі людзьмі вольнымі. У Мастаўлянах пастаўлена помнік Кастусю – новы школьны будынак. Гэты помнік хіба і з'яўляецца найбольш наяўным прыкладам таго, за што змагаўся Каліноўскі. Школа, у якой зараз навучаецца 122 дзяцей, мае імя Кастуся Каліноўскага, аб чым паведамляе выпісаная на польскай і беларускай мовах мемарыяльная дошка. У гэтай жа школе дзеці вучацца беларускай мовы, працуе аж 6 настаўнікаў, вядуцца курсы для дарослых для заканчэння пачатковай школы. Моладзь з гуртка ЗМВ пры дапамозе настаўнікаў ставіць беларускія п'есы. Вучні вядуць багатую перапіску з сябрамі ў БССР. Бывалі таксама пісьмы і з Вялікай Бераставіцы, дзе дзейнічаў родзіч Мастаўлян, а школа мае таксама яго імя. Кожны год адбываюцца ў школе вечырыны ці „паранкі” прысвечаныя памяці Кастуся” (А. Карпюк, *На радзіме „Яські гаспадара”. Да 130 гадавіны нараджэння К. Каліноўскага*, „Ніва”, nr 5, z dn. 4.02.1968 r., s. 1, 5).

Fragment powieści Sokrata Janowicza „Сярэбраны яздок” zaczynał się słowami: „Прысніўся мне кароль Беларусі, а каралём гэтым быў Кастусь Каліноўскі. Уцякаць!... Трупа завалаклі ў зараснік, прыкрылі сухападам…”. Powieść dla młodzieży – jak ją rekomendowano – powstała specjalnie z okazji 130. rocznicy urodzin K. Kalinowskiego i jej akcja rozgrywa się m.in. na Białostoc-

czyźnie. Powieść ukazała się dopiero w 1978 r. w Mińsku. Przy fragmencie powieści w „Nivie" zamieszczono reprodukcję pracy Piotra Sierhijewicza „K. Kalinowski i W. Wróblewski przeprowadzają przegląd powstańców w 1863 r." W 1973 r. w kalendarzu białoruskim opublikowano opowiadanie „Апошні" Mikołaja Hajduka, poświęcone powstaniu styczniowemu i jego tragedii dla Białorusinów.

Przy okazji rocznic urodzin i śmierci K. Kalinowskiego jego postać stała się popularnym tematem dzieł sztuki zwłaszcza w BSRR, o czym w 105. rocznicę śmierci informowano w „Nivie". Wśród artystów, których tematem prac stał się K. Kalinowski, wymieniono rzeźbiarzy H. Sielichanowa i Z. Azhura, malarzy D. Masłowa, A. Huhela, R. Kudrewicza, P. Sierhijewicza, grafików S. Hierusa, P. Maslenikowa, A. Maryksa, M. Niczyporuka (Дзмітрый Маслаў мастак – жыхар вуліцы К. Каліноўскага ў Мінску, „Ніва", nr 12, z dn. 23.03.1969 r., s. 3).

W latach 70. zainteresowanie K. Kalinowskim na łamach „Nivy" znacznie osłabło. W kalendarzach wprawdzie ukazywały się nadal okazjonalne artykuły rocznicowe – w 1974 r. z okazji 110. rocznicy śmierci pisał o nim Aleksander Barszczewski: „Прозвішча, ідэі, дзейнасць Кастуся Каліноўскага – бадай, што найпрыгажэйшай постаці ў беларускім руху XIX ст. – выклікаюць асаблівую эмоцыю ў нас, у беларусаў Беласточчыны. Прычына гэтай эмацыянальнасці ў тым, што Каліноўскі вырас на нашай зямлі, марыў аб яе свабодзе, ваяваў за яе і за яе загінуў".

Jakby w sukurs Aleksandrowi Barszczewskiemu pisał na łamach „Nivy" Mikołaj Hajduk, który przeżywał brak właściwego upamiętnienia K. Kalinowskiego w Mostowlanach: „Факт, што школе прысвоена яго імя, абавязвае да таго, каб у ёй быў адпаведны пакой-музей, прысвечаны вялікаму барацьбіту. Такога музея ў школе да гэтага часу няма. І, як здаецца, намер дырэктара школы абсталяваць усяго толькі „куточак памяці К. Каліноўскага" зусім не адпавядае рангу справы і патрэбам. Лішнія словы тут не на месцы. Напрошваюцца балючыя пытанні: як жа ж маглі дапусціць да такога стану бацькі і школа ў Мастаўлянах? Чаму не паклапаціліся пра гэта грамадскія арганізацыі гміны ў Гарадку, Беластоцкага павету? На што глядзяць працаўнікі аддзела асветы прэзідыума ПРН і беластоцкая куратoрыя? Калі гэтай справай займецца аддзел БГКТ? Недзе каля паўтара стагоддзя таму назад па вузкай вулачцы Мастаўлянаў блукаў хлопчык Кастусь, а першая беларуская газета „Мужыцкая праўда" была пісана на роднай мове мастаўлянцаў". Z okazji 140. rocznicy urodzin K. Kalinowskiego M. Hajduk napisał reportaż o miejscach z nim związanych na Białostocczyźnie: „Пасля невялічкага фальварку Каліноўскіх у Мастаўлянах каля Ялоўкі, дзе 21 студзеня (2 лютага па новаму стылі) 1838 года прыйшоў на свет Кастусь, засталіся толькі пакарэжаныя навалніцамі ды старасцю дрэвы. (...) Ніхто не ходзіць з ірдзістымі ружамі на магілу Канстанціна Каліноўскага, бо нікому невядома, дзе яна знаходзіцца. Затое мы штодня ходзім яго паўстанцкімі шляхамі-сцяжынамі, што пралеглі на вуліцах Беластока, Гродна, Вільна, прайшлі па Саколцы, Ялоўцы, Гарадку, прабеглі па многіх навакольных вёсках, асталіся ў лясной чашчобе паміж Нёманам і Бугам. І ходзім мы па іх, і не зарастаюць яны ніколі – неабсяжныя помнікі вялікаму нашаму герою". Przy okazji zamieszczono reprodukcje portretów K. Kalinowskiego autorstwa A. Huhela i R. Kudrewicza.

Z okazji 120. rocznicy powstania styczniowego w kalendarzu białoruskim ukazał się krótki artykuł, który w całości poświęcono K. Kalinowskiemu: „Вялікую ролю адыграў у Студзеньскім паўстанні Кастусь Каліноўскі, наш зямляк, які родам з Мастаўлян". Przypomniano, że akurat przypada jego 145. rocznica urodzin. Przytoczono fragment opinii wybitnego pisarza białoruskiego Uładzimiera Karatkiewicza o nim, wyrażonej w piśmie „Biełaruś" z okazji 100. rocznicy śmierci: „Яго звалі Кастусём Каліноўскім і за тыдзень да страшнай ночы 29 студзеня яму мінуў дваццаць шосты год. За такі час большасць людзей паспявае зрабіць мала. А гэты паспеў стварыць вольную беларускую прэсу, пасеяць насенне народнага гневу, узрасціць яго і зняць пасеў. Спачатку ён кіраваў паўстанцамі Гродзеншчыны, а потым усклаў на свае плечы паўстанне ўсёй Беларусі і Літвы. І калі белае панства здрадзіла і пакінула народ, Каліноўскі ўзначаліў яго і неймавернай сілай волі трымаў гэты цяжар пяць месяцаў. (...) І гэтыя яго трагічныя апошнія часіны, гэтая тытанічная праца, гэтая мужная ўпэўненасць у тым, што яшчэ не скончана барацьба, гэтая гатоўнасць біцца да канца, гэтая невычэрпная любоў да волі, да радзімы, да дэмакратыі, – робяць асобу Каліноўскага самай трагічнай і велічнай у гісторыі Беларусі, яе нацыянальным героем. Вось ён, студэнт, люта спрачаецца з „белым" за волю і зямлю для народа. І мы на яго баку. Вось ён ідзе на чале мужных атрадаў: за поясам чамаркі два пісталеты, на чамарку накінута белая сялянская світка, а побач трапеча баявы сцяг. І мы захапляемся ім. Вось ён сядзіць за пяром над пробным нумарам „Мужыцкай праўды". А мы сочым за ходам яго думак і згаджаемся з імі. Каб ніхто больш не асмеліўся назваць рабом простага чалавека і крыўдзіць яго, ...ён, гэты малады чалавек змагаўся словам, пяром і зброяй". Polecano także lekturę książki Wiktora Kordowicza „Konstanty Kalinowski", wydanej przez Ludową Spółdzielnię Wydawniczą w 1955 r. W „Nivie" z tej okazji zamieszczono fragment przedwojennego poematu Maksima Tanka „Каліноўскі", który zaczynał się od słów:

„Калісь Кастусём яго звалі ў Мастаўлянах,
У Гарадзеншчыне клікалі Світкай сяляне..."

W 1984 r. z okazji 120. rocznicy tragicznej śmierci Sokrat Janowicz pod pseudonimem Aleksander Antoszewicz potraktował K. Kalinowskiego po nowatorsku – uznał go

za prekursora idei współczesnej Białorusi: „Ён – наша легенда і пакутная святасць. З яго імем мы атаясамліваем п а ч а т к і ідэі незалежнасці Беларусі. У ім выявіўся нас, беларусаў, упершыню самастойны голас" (А. Анташэвіч, Каліноўскі – пачаткі ідэі сучаснай Беларусі, (w:)Беларускі каляндар 1984, Беласток 1984, s. 113). Odpowiadając na pytanie, co wiadomo o K. Kalinowskim, stwierdzał: „На дзіва вялікае – няшмат. Бачна ў гэтым нейкая заканамернасць – выдатнасць такіх людзей, іх эпахальную велічыню, дакладна заўважаюць будучыя пакаленні, ужо ўнукаў ды праўнукаў, калі, зазвычай, робіцца аднак запозна на падрабязную рэканструкцыяю побыту ды дзеянняў апостальскай постаці (вымiраюць сведкі адлеглых падзей, губляюцца архіўныя матэрыялы і г.д.)". Sokrat Janowicz rekonstruując legendę K. Kalinowskiego uważał, że niedopuszczalne są dyskusje na temat jego narodowości, które pojawiły się w środowisku: „Некаторыя з нас у сваіх роздумах пра Кастуся Каліноўскага і ягоныя справы дапускаюць кардынальную памылку, менавіта, якойсці міжвольнай агістарычнасцю (што не павінна мець месца ў інтэлігентна думаючага чалавека). Гэта звычайна недапушчальнае гаварыць пра гэтага беларускага палітыка і барацьбіта паняццямі сённяшняга дня і эпохі. Адчуваў сябе Каліноўскі беларусам ці не? Уяўляў ён сабе Беларусь як дзяржаву беларусаў ці не? І ці ёсць у нас дзеля таго падставы, каб лічыць яго будаўніком нашай нацыянальнай свядомасці? Бо, на ўсё тое, не знаходзім мы выразных ягоных выказванняў, ну, у тым, што ўцалела ці то ў выглядзе друкаў ці проста запісаў... (...) Што ж, праўда, няма такіх. Але гэтая праўда, так сказаць, чыста фармальная. Беларусы ў сваёй масе ўсяго толькі прачыналіся да ўласнага свядомага існавання як народ з уласнай зямлёй, моваю, светапоглядам".

Z okazji 150. rocznicy urodzin K. Kalinowskiego przypomniał go w kalendarzu białoruskim na 1988 r. Aleksander Barszczewski: „Да постаці Кастуся Каліноўскага будуць вяртацца ўсе пакаленні свядомых беларусаў, незалежна ад таго, калі яны паявяцца на нашай зямлі. Выключная палымянасць характару, ахвярнасць у барацьбе, вера ў будучыню, нянавісць да ворагаў і любоў да роднага краю – усё гэта складаецца на сілуэт чалавека-барацьбіта, які будзе на працягу стагоддзяў прыгожым сімвалам вернасці і аддання Айчыне". Была to szczególna okazja, bowiem zarówno na Białostocczyźnie, jak i w BSRR miało miejsce białoruskie odrodzenie narodowe. Sokrat Janowicz na łamach „Nivy" pisał: „Сто пяцьдзесят гадоў у нашым баку Еўропы таксама бывае нямала. Мы, беларусы, думаючы сёння пра так круглую дату сардэчна ўспамінаем Кастуся Каліноўскага. Апостал нашага народа нарадзіўся ў перадграмнічную сярэдзіну зімы, 2 лютага 1838 года ў Мастаўлянах, што за Гарадком, у Беластоцкім цяпер краі. (...) Рыма-каталік і паляк па-свайму выхаванню, ён пачуўся беларусам. Гэтага не разумеў ніхто, акрамя жменькі ягоных сяброў, гэтак жа „хворых на сумленнасць і справядлівасць". (...) Нехта можа сказаць: утопія Кастуся Каліноўскага! Што зваяваў паўстанец у лапцях ды з касою ў руках супроць казацкіх сотняў і армейскіх палкоў? Так пытаць, а яшчэ і з сур'ёзным выглядам твару можна якраз з перспектывы паўтара стагоддзяў" (А. Анташэвіч, Святыя жылі сярод нас. Да 150-годдзя з дня нараджэння, „Ніва", nr 5, z dn. 31.01.1988 r., s. 1, 4). Przy artykule zamieszczono także linoryt Mikoły Kupawy z 1977 r. „Напачатку Кастусь Каліноўскі". Było to wynikiem kontaktów z młodym pokoleniem artystów-plastyków z BSRR, którzy z okazji 150. rocznicy urodzin K. Kalinowskiego i 125. rocznicy powstania styczniowego przygotowywali wystawę w Mińsku i postanowili jesienią 1987 r. odwiedzić rodzinne strony K. Kalinowskiego. W wywiadzie dla „Nivy" Wiktor Markawiec i Mikoła Kupawa opowiedzieli, jak ich zainspirował K. Kalinowski: „Як вядома, у 1988 г. адзначаем дзве выдатныя гадавіны: 150-ую гадавіну з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага і 125-ую гадавіну Студзеньскага паўстання. (...) Саюз мастакоў рыхтуе адмысловую мастацкую выстаўку. Але, вядома, за доўгія часы беларускія мастакі не мелі магчымасці наведаць родныя аселіцы Кастуся Каліноўскага, якія знаходзяцца на Беласточчыне. Узнікла задума не толькі зрабіць замалёўкі, але вывучыць і мастацка засвоіць мясціны, дзе нарадзіўся К. Каліноўскі і дзе праходзілі падзеі Студзеньскага паўстання. Прыехала нас група 5 чалавек мастакоў: мы ўдвох з Мінска і трох нашых калег з Гродна (Уладзімір Коўзусь, Сяргей Асапрылка і Уладзімір Казакоў). В. Маркавец: Асноўную ўвагу мы звярнулі на Мастаўляны, радзіму К. Каліноўскага. І прыемна ўражаны маляўнічасцю тых мясцін над рэчкаю Свіслаччу. Мы перш за ўсё імкнуліся спасцігнуць адметныя рысы гэтага цудоўнага кутка. (…) Мы замалявалі агульныя віды Мастаўлян, асабліва месца, дзе была сядзіба Каліноўскіх, падмуркі сядзібы, рэшткі парку, наваколле, будынак былой школы імя К. Каліноўскага. Потым наведалі магілу паўстанцаў у Перацёсах у былой Крыноцкай пушчы, пабывалі ў Ялоўцы, Гарадку і ў Доме культуры імя К. Каліноўскага, пазнаёміліся са старымі раёнамі горада Беластока, дзе, магчыма, Б. Шварцэ, В. Урублеўскі і К. Каліноўскі друкавалі „Мужыцкую праўду". (...) Перш за ўсё з жыхарамі Мастаўлян. Цікавыя гэта былі апавяданні пра даўнія часы. Пачулі мы ад старэнькага селяніна легенду пра тое, што Кастусь Каліноўскі не загінуў на шыбеніцы. Ён з'яўляецца ў родных мясцінах. Як старэнькі чалавек з'явіўся таксама ў Мастаўлянах і прасіў людзей пацвердзіць, што ён тут жыў, бо яму тое патрэбна ў якойсці ўстанове. „Я цяпер – вандраўнік. Але тут нарадзіўся і жыў, – казаў. – Вы ж усе мяне добра памятаеце..." Размаўлялі мы з людзьмі, якія жывуць на тым месцы, дзе была сядзіба Каліноўскіх".

Przemiany, jakie miały miejsce w Polsce i na Białorusi na przełomie lat 80. i 90. XX w. pozwoliły na przywrócenie pamięci o wielu zapomnianych białoruskich bohaterach narodowych. K. Kalinowski znalazł się niejako na drugim planie zainteresowań dziennikarskich. Jego postać przypomniano w 1998 z okazji kolejnej okrągłej rocznicy urodzin. W „Nivie" obok portretu K. Kalinowskiego pojawił się kontrowersyjny artykuł Konstantego Masalskiego, w którym pisał: „І Каліноўскі, і Малахоўскі хацелі тэрорам прымусіць насельніцтва беларускіх зямель падтрымаць паўстанне. (...) Паўстанцы мардавалі таксама праваслаўных святароў на тэрыторыі сённяшняй Беласточчыны. (...) Можна сказаць, што Каліноўскі не змагаўся за незалежную Беларусь і свабоду беларусаў, але хацеў, каб беларусы былі падданымі польскіх паноў. Таму лічу, што асоба Каліноўскага не можа быць узорам беларускага патрыёта, тым больш, што ён не пераносіў праваслаўя. Можна яго таксама надзяліць мянушкай „вешателя", паколькі яшчэ перад Мураўёвым шырока прымяняў гэтую меру пакарання. Прапаную таксама ля абеліска ў гонар паўстанцаў 1863-64 гадоў у Сакалдзе паставіць крыж для ўшанавання нявінных ахвяр, якія пацярпелі ад атрада Каліноўскага". Polemikę z nim podjął historyk Oleg Łatyszonek, który stwierdził, że K. Kalinowski nie jest postacią jednoznaczną, ale nie można jednego mitu zastępować innym: Асоба, вядомая ў беларускай гістарыяграфіі і літаратуры як нехта „Кастусь" Каліноўскі, беларускі нацыянальны герой, у сапраўднасці не так адназначная. Сам я неаднойчы выступаў супраць гэтага міфа. Тым не менш нельга адзін міф заступаць іншым (бо не новым), як гэта робіць Канстанцін Масальскі. Ніякая спрэчка немагчымая, пакуль бакі не дамовяцца адносна паняццяў, г.зн. што яны разумеюць пад гэтым ці іншым словам. (...) Безумоўна, Каліноўскі не змагаўся за незалежную Беларусь. Згодны я і з тым, што асноўным грэхам Каліноўскага было тое, што ён не пераносіў праваслаўя. Усё ж такі дакараць Каліноўскага ў тым, быццам бы ён не зважаў, што карэннымі жыхарамі былога ВКЛ былі беларусы і літоўцы – гэта ўжо замнога. З гэтакім апрыярычным сцвярджэннем проста немагчыма дыскутаваць. Дык да каго пісаў пабеларуску і па-літоўску ўсе свае загады, вершы і запаветы? І кім была ягоная Марыська чарнабровая – няўжо полькай? (...) К. Масальскі не разумее, да якой Польшчы Каліноўскі хацеў далучыць Літву і Беларусь. (...) Каліноўскі не быў жа ніякім каланізатарам. Змагаўся за свабоду сваёй роднай зямлі. Мы сёння можам інакш разумець гэтую свабоду, але гэта не мяняе факту, што каланізатарамі былі расейцы. *(Працяг будзе)*

**Лена Глагоўская**

***Пасля публікацыі***

## Яшчэ раз пра аўтарку „Заранкі"

У сакавіцкім нумары „Czasopisa" быў апублікаваны мой артыкул „Марыя Ласько – аўтарка „Заранкі". Пасля публікацыі адгукнуўся краязнавец і настаўнік з вёскі Заполле Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці Алесь Зайка. Алесь Зайка паведаміў, што, сапраўды, у Косаве жыла Марыя Ласько. Яна пражыла доўгае жыццё. Ніколі не была замужам, працавала на будоўлі. Жыла разам з роднай сястрой у невялікай старой хаце. Былі яны мяшчанкі, заўсёды акуратныя і прывабныя. У свой час Марыя Ласько разам з сястрой скончылі 7 класаў польскай школы ў Косаве, таму былі адукаванымі жанчынамі. Праўда, пасля „Заранкі" Марыя Ласько нідзе не друкавалася.

Жанчыны ўжо даўно памерлі і пахаваныя ў Косаве. Спадар Зайка таксама даслаў мне два фотаздымкі, якія сёння прапаную чытачам Часопіса. На адным старым здымку канца 1920-х гадоў сфатаграфавана Марыя Ласько (злева) з сястрой, на другім фотаздымку – Марыя Ласько ў сталым узросце. Фотаздымкі друкуюцца ўпершыню.

**Сяргей Чыгрын**





